# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1662) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 20 САКАВІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.



## РЭФОРМА СПРЫЯЕ ДОБРЫМ

Інжынер **Люцыян Невяроўскі** ад лістапада мінулага года з'яўляецца сакратаром Ваяводскага камітэта ПАРП, якому даверана адказнасць за сельскагаспадарчыя справы. Мяркую, што будзе карысна пазнаёміцца нам усім з гэтым чалавекам і з яго поглядамі на асноўныя праблемы жыцця і працы ў вёсках, асабліва цяпер, калі рашуча ажыццяўляецца другі этап гаспадарчай рэформы, калі таксама ад 1 лютага ўсіх нас абавязвае ўжо новая сістэма цэн.

— Таварыш сакратар, якімі жыццёвымі сцежкамі ішлі Вы да пасады адказнага палітычнага дзеяча?

— За мною ўжо 42 гады жыцця. Нарадзіўся я ў вёсцы **Клопаты.** Ёсць такая вёска між Сямяцічамі і Дзядковіцамі, недалёка ад шашы з Бельска ў Сямяцічы...

— Значыць, першы экзамен па ведах аб сельскай гаспадарцы трымалі Вы ў свайго бацькі. Дык не трэба Вам напамінаць, як граблі называюцца...

Сакратар мружыць вочы і з усмешкай глядзіць на мяне. Здагадваюся, што думкамі вяртаецца ён у гэты момант да бацькоўскіх старонак.

— Нямала майго поту засталося на бацькоўскіх загонах, — кажа ён, а голас і выгляд ягонага твару даказвае, што з радасцю і задавальненнем успамінае ён гэты юнацкі перыяд свайго жыцця.

— І за плугам, — дабаўляе, — і за баронамі, і за касою, а таксама і пры сене, і пры гноі...

— А цэпам не даводзілася вам малаціць? — зажартаваў я.

— А як жа! З бацькам стаялі

(Працяг на стар. 6)

## Агляд у Сямяцічах

Быў гэта адначасова агляд беларускай песні і раённы адбор самадзейнікаў на конкурс савецкай песні. Праўду кажучы, былі гэта тыя ж самыя людзі, хаця конкурсная камісія пад кіраўніцтвам прафесара **Ежы Сьрудкоўскага** выразна іх размежавала, адзначыўшы, што ў аглядзе беларускай песні прыняло ўдзел: два хоры, два дуэты і пяць салістаў, а ў конкурсе на савецкую песню спаборнічалі: два тыя самыя харавыя калектывы, адно трыо і адзін саліст. Разам — чалавек 30-35. Агляд адбыўся ў суботу, 20 лютага 1988 года, у Сямяціцкім асяродку культуры, якім ад пачатку гэтага года кіруе Збігнеў Тымінскі.

— Пад нашай апекай, — кажа дырэктар З. Тымінскі, — дзейнічаюць самадзейныя калектывы: „Сланечнікі", у саставе якога людзі з тутэйшых навакольных вёсак, „Зялёныя агароднічкі" з Агароднікаў, „Свахі" з Толвіна, народны хор з Рагаўкі і дзіцячы калектыў „Малое Падляссе", якое састаўляюць вучні пачатковай школы № 2 у Сямяцічах.

Сярод калектываў, якія назваў дырэктар, крыху бліжэй даваліся мне пазнаёміцца з жанчынамі з Агароднікаў. Іх хор складаецца з 11 асоб. На агляд прыехала толькі восем жанчын. Проста розныя справы здараюцца сялянам у гаспадарцы.

— Найбольш мы шкадуем, — казала мне Ніна Вакулюк, арганізатар гэтага калектыву, — што не мог сёння ўдзельнічаць у аглядзе наш адзіны мужчына, саліст Аляксандр Гуменяк. У яго цяжка захварэла жонка, дык трэба было застацца дома. Гэта цудоўнейшы чалавек. Проста самародны артыст.

Вёска Агароднікі знаходзіцца ля самага Буга. Аказваецца, што і там жывуць беларускія людзі. Яны ахвотна карыстаюцца яшчэ сваёй мясцовай гаворкай, якая выводзіцца з паўднёва-палескай моўнай беларускай плыні, бо адсюль, ад надбужных вёсак, шмат бліжэй да палешуцкай Брэстчыны, чымсьці да крывіцкае Гродзеншчыны. Нават журы мела засцярогі да прадэманстраваных песень, што быццам бы яны не ўмяшчаюцца ў рамках беларускага фальклору. Сапраўды, паўднёва-палеская беларуская гаворка вельмі розніцца ад літаратурнай беларускай мовы. Ведаю аб гэтым, бо я сам узрастаў на глебе гэтай гаворкі. Трэба, аднак, ведаць, што і ў Агародніках, і ў Мельніку, і па ўсім Пабужжы жывуць чыстакроўныя нашы пабрацімы. Толькі трэба ім растлумачыць, пераканаць іх, што яны менавіта беларусы. Якраз арганізацыя харавога калектыўнага спявання — адзін з лепшых спосабаў усведамляючага ўплыву на тутэйшае насельніц-



„Зялёныя агароднічкі" з Агароднікаў над Бугам.

(Працяг на стар. 7)

НА мяжы

# АБ НЯДОБРАСУМЛЕННЫХ КАРЭСПАНДЭНТАХ

Вельмі мяне смешаць тыя карэспандэнты „Нівы" (на шчасце, такіх карэспандэнтаў усяго некалькі), якія на старонкі тыднёвіка ўсімі сіламі стараюцца ўнесці атмасферу не дыскусійнага форума, а базарнай палянкі. Яны, усведамляючы поўнасцю, што пішуць выключна дзякуючы іншым, бо, як правіла, там, дзе іншыя сказалі „не", яны скажуць „так", а дзе хтосьці сказаў „так", яны гавораць „не" і гэтым заканчваецца ўся іх творчасць. Аднак прозвішча ў друку паявілася, а чаго болей трэба?! Вельмі нізка цаню тых, хто цэлы тыдзень нецярпліва чакае пятніцы, у якую прыдзе „Ніва", адкрыўшы „Ніву" хапаюцца за пяро, бо вядома, што да кожнага матэрыялу можна прычапіцца і яны чапляюцца. Прымяняюць, аднак, вельмі хітрую палітыку. Яны баяцца, як агню, каб чытачы хаця не падумалі, што яны іншым аўтарам чымнебудзь абавязаны. Тады яны толькі эпігоны, а не выдатныя творцы. А як гэта даказаць? Вельмі проста: згнаіць аўтара. Тады, нябось, ніхто не скажа: ты, братка Ікс, напісаў свой артыкул дзякуючы Ігрэку. Ёсць у яго аргумент: я ж згноіў Ігрэка, значыць, нічым яму не абавязаны. Бедныя гэта людзі! Бедныя дабром, але багатыя злом. Такія аўтары напамінаюць мне кляшчоў або піявак, якія, прысмактаўшыся да чужога цела, робяць выгляд, што не маюць нічога супольнага з гэтым целам, або прызнаюцца, што напіліся чужой крыві, але гавораць, што гэта кроў вельмі працаёмная і гідкая.

Прывяду прыклад. Я калісьці напісаў артыкул „Аб бацьках пушчы", у якім прадставіў рускіх цароў, якія на імя бацькоў пушчы не заслужылі. У заканчэнні артыкула напісаў, што і гаспадары новых эпох таксама не адзначаліся вялікай любоўю да Белавежы. Аднак гэтай другой тэмы я не развіваў. Мяне перш за ўсё цікавілі цары і на іх я затрымаўся. Намякнуўшы на іншых „гаспадароў", я, вядома, адкрываў вароты іншым аўтарам. Напісаў я толькі аб царах таму, што не ў нашай, а ў царскай літаратуры трапіў на артыкул, які гаварыў аб тым, што цар і яго госці выступілі ў ролі сапраўдных рэзнікаў белавежскай звярыны. Артыкул гэты мала вядомы людзям, бо кніга, у якой ён змешчаны, вельмі рэдкая. Вось таму я і рашыў наблізіць гэтае цікавае здарэнне людзям. Я вельмі аслабіў бы вымову апісанага, калі б пачаў шырока апісваць падобныя рэзні, праведзеныя і санацыйнымі дзеячамі, і герынгамі, і пасляваеннымі псеўдапаляўнічымі. Сказаў толькі аб адным „бацьку", але сказаў, што былі і іншыя.

Зразумела, што добрасумленны карэспандэнт (журналіст), прачытаўшы мой артыкул, меў права пісаць свой артыкул на закранутую мною тэму. У такой сітуацыі карэспандэнты найчасцей пішуць так: „Ікс напісаў цікавы артыкул на тэму...", або „Дзякуючы артыкулу Ікса пазнаёміўся я з невядомым мне матэрыялам...", або „Ікс закончыў свой артыкул сцвярджэннем, што не толькі цары, але і іншыя гаспадары Белавежы абыходзіліся з Белавежай бесцырымонна. Вось я і хачу выказацца аб гэтых іншых гаспадарах..."

Так напісаў бы сумленны. А як несумленны? Несумленны пачынае ад „бомбы". Ён ужо першай фразай хоча даказаць, што яго артыкул не толькі не паявіўся дзякуючы Іксу, але ён ад самых карэнняў — зьява незалежная. А зрабіць гэта вельмі проста. Трэба толькі пачаць ад слоў: „А чаму гэта А. Барскі не напісаў аб новых гаспадарах пушчы, якія прынеслі ёй як жа многа шкоды?!" Гэта вельмі разумны ход, хоць і моцна езуіцкі. Чытачы ўжо, праўдападобна, забыліся, што я свой артыкул закончыў тым, што новыя гаспадары таксама шкодзілі пушчы. На гэта якраз разлічвае несумленны аўтар і сваёй фразай ставіць мяне адразу на пазіцыю другарадную, а можа і дзесяцірадную. Мала таго. Той-сёй падумае: „Які ўсё ж такі прымітыўны А. Барскі. Не заўважыў таго, што так мудра падмеціў Ікс!" А якраз гэтага і чакае Ікс. Чакае, каб усе падумалі, што ён нічым нікому не абавязаны і вельмі ўмела напраўляе тое, што іншыя вельмі дрэнна зрабілі.

Хтосьці можа сказаць: такіх нядобрасумленных карэспандэнтаў „Ніва" мае мала. Святая праўда! Дзякуй Богу, бо калі б было болей, дык яны б не толькі безупынна лаялі іншых аўтараў, але, хто ведае, ці не пыэджалі б дахаты і не білі б гэтых бедалагаў.

**Алесь Барскі**

# ХРОНІКА

Пасля нарады старшынь гурткоў у горадзе Гайнаўка, якая адбылася 3 лютага, праведзены былі справаздачна-выбарныя сходы: 12.02. — на Гайнаўскім прадпрыемстве лясных машын, а 17.02. — на Прадпрыемстве лясной прадукцыі „Лес". Справаздачна-выбарныя сходы адбыліся таксама ў Дубінах (15.02.) і ў Чыжах (17.02.).

13.02. — Прэзідыум Дуброўскага аддзела БГКТ пад старшынствам Аркадзя Сулімы разглядзеў справы падрыхтоўкі да справаздачна-выбарнай канферэнцыі аддзела. Прэзідыум праўлення звярнуўся да Прэзідыума ГП наконт фінансавання мэбліроўкі свайго памяшкання.

17.02 — Праўленне Сакольскага аддзела БГКТ абмеркавала бягучыя БГКТ-оўскія справы. Вырашана выступаць у пасобных вёсках з інфармацыяй аб дзейнасці БГКТ пры нагодзе наладжання культурных мерапрыемстваў.

Па ініцыятыве студэнцкай моладзі ў памяшканні ГП 19 лютага адбылася першая лекцыя Беларускага народнага універсітэта. Лектарам гэтага вечара была Марыя Базылюк, а расказвала яна аб Францыску-Георгію Скарыне — беларускім першадрукару, вучоным, асветніку, культурным дзеячу, перакладчыку і пісьменніку эпохі Адраджэння.

20.02. — У Слоі, у клубе сяляніна, гурток БГКТ арганізаваў карнавальную вечарыну. Спачатку прысутным прачытана была інфармацыя аб статутовай дзейнасці БГКТ, а пазней — некалькі вершаў беларускіх паэтаў. Усе культурна, весела, з песняй і танцамі правялі вечар.

25.02. — На чарговым, штомесячным сходзе штатных працаўнікоў Галоўнага праўлення БГКТ дамінавалі пытанні справаздачна-выбарнай кампаніі ў БГКТ. Хведар Галёнка з Варшавы гаварыў аб усіх пачыннях праўлення Варшаўскага аддзела ў бягучым годзе. У Варшаве цяпер 470 членаў БГКТ, аб'яднаных у 4 гуртках. Апрача традыцыйнага карнавальнага балю ў Палацы культуры і навукі, арганізавана была навагодняя ёлка для дзяцей. Аддзел наладзіў жывы кантакт з рэдакцыяй „Голасу Радзімы" і з Польскім культурна-асветным саюзам у Чэхаславакіі. Карыстаюцца вялікай папулярнасцю дыскусійныя чацвяргі клуба „Памост".

Анна Бжазоўская з Бельскага і Міхась Вішанка з Сямяціцкага аддзелаў інфармавалі, што ў пасобных людзей на вёсках падрыхтавана ўжо нямала экспанатаў для Беларускага музея ў Гайнаўцы, і трэба толькі, каб ГП іх забрала.

Намеснік старшыні ГП Канстанцін Майсеня, які вёў пасяджэнне, звярнуў увагу на цяжкасці з абслугай вясковых гурткоў БГКТ на Гайнаўшчыне, дзе іх налічваецца каля 90, і сцвярджаў, што неабходна дапамагчы раённаму інспектарату ў Гайнаўцы правесці справаздачна-выбарную кампанію.

26.02. — На справаздачна-выбарным сходзе гуртка БГКТ у „Ніве" у склад праўлення выбраны Міхась Хмялеўскі — старшыня, Марыя Федарук — сакратар, Яўгенія Палоцкая — скарбнік.

27.02. — Сакратар ГП Аляксандр Іваноўскі і член Прэзідыума Міхась Хмялеўскі правялі размову ў гмінным камітэце ПАРП у Юхнаўцы аб стварэнні спрыяльнага клімату для арганізавання вясковых гурткоў БГКТ там, дзе ёсць беларусы. Да гэтага часу ў гмінах Юхнавец, Харашч, Васількаў і Супрасль БГКТ не мела сваіх звенняў, калі не лічыць таго факту, што ў некаторых перыядах было там па аднаму гуртку. Неабходна ўтварыць міжгмінны аддзел БГКТ з сядзібай у Беластоку яшчэ перад XI з'ездам БГКТ.

**М.Х.**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР НА 1988 ГОД

На днях выйшаў з друку „Беларускі каляндар на 1988 год". Апрача календарыума на 1988 год, чытачы знойдуць тут дэталёвы пералік найважнейшых грамадска-культурных падзей з жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў ПНР за апошнія гады. Некалькі старонак адведзена памяці Лідзіі Бялецкай, Анны Амбражэй-Кананчук, Юркі Геніуша і Аляксандра Рафаловіча — дзеячоў БГКТ, якіх не стала ўжо сярод нас.

У раздзеле „Нашы браты — нашы суседзі" многа цікавых матэрыялаў з БССР. Можна з іх даведацца пра сучасныя міжнародныя сувязі беларускай літаратуры, пазнаёміцца з постацця вядомага беларускага вучонага Арсенія Ліса і ўмовамі жыцця сялян у Савецкай Беларусі.

У сувязі са 150-ай гадавінай з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, яго постаць набліжае А. Баршчэўскі. Пра беларускую гімназію ў Беластоку успамінае Лідзія Стадулка (Зарэцкая), а Уладзімір Юзвюк — пра сваё дзесяцігадовае сакратараванне ў ГП БГКТ.

На старонках Календара прэзентуюцца постаці беларускіх дзеячоў культуры: Сцяпана Копы — музычнага інструктара, кіраўніка беларускіх хароў, і Міколы Давідзюка — вядомага мастака, пражываючага ў Лодзі.

На літаратурным палетку чытачы знойдуць творы „белавежцаў".

Выдадзены „Беларускі каляндар на 1988 год" тыражом 5.000 экз. і каштуе ўсяго толькі 200 зл. Можна яго купіць у клубах БГКТ і школах з беларускай мовай навучання, а таксама выпісаць за паштовым заліччэннем па адрасу: Zarząd Główny BTSK, ul. Warszawska 11, 15-062 Białystok.

**В. Луба**

## АФРЫКА Ў ГРЫГАРУКА

Сцяпан Грыгарук з Бельска купіў увесну саджанец лімона (цытрыны). Не адзін ён купіў, але толькі ў яго лімоннік зацвіў і даў плод, шэсць штук. Лічы, адзін кілаграм, на які трэба ісці да спекулянта, каб злупіў з цябе апошнюю скуру.

**А. Гаўрылюк**

## КАЛІ СЛУХАЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ?

Беларускія песні добра слухаць кожную нядзелю раніцай. Яшчэ перад 8 гадзінай можна пачуць родную песню ў перадачы „Масква з мелодыяй і песняй для польскіх слухачоў". Роўна ў 8 гадзін па II праграме — УКФ слухаем нашу беларускую радыёперадачу з Беластока. У кожнай перадачы гучыць некалькі беларускіх песень. У 8 гадзін 35 мінут пачынаецца амаль гадзінны канцэрт з Мінска „Жадаю Вам" — І праграма Беларускага радыё. Большасць песень у канцэрце — гэта беларускія песні. Зараз жа пасля гэтай перадачы радыё „Мінск" на той жа доўгай хвалі пачынае паўгадзінную сустрэчу з песняй пад загалоўкам „У вольную часіну". Перадача знаёміць слухачоў з аматарамі-спевакамі БССР.

Больш за 2 гадзіны кожную нядзельную раніцу можна сустрэцца з беларускай песняй.

**М. В.**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка




## БАЛЬ(?) БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНТА

23.I.1988 г. у сталоўцы, што знаходзіцца пры Варшаўскім універсітэце, меў адбыцца III баль беларускага студэнта. Пішу: меў адбыцца, бо, як высветлілася, ЗСП — Згуртаванне польскіх студэнтаў — не аформіла дазволу, а гэта было іх справай. Нашыя дзяўчаткі шмат напрацаваліся, падрыхтавалі чай, каву, пірагі, упрыгожылі зал, усё было падрыхтавана. Калі людзі прыйшлі, дзеяч ЗСП заявіў, што проста з іх віны няма дазволу і мы мусім разысціся. Дзякуючы хуткай ініцыятыве, людзі, ужо ў меншай колькасці, перайшлі на вуліцу Смычкову, дзе, зразумела, у іншым маштабе гулялі далей. Але папсутага настрою ўжо нічым нельга было направіць. **(яв)**

## НЯЎДАЛАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА

12 снежня м.г. адбыўся ў варшаўскім клубе „Акцэнт" другі агляд мастацкай творчасці студэнтаў нацыянальных меншасцей. Першы агляд такога тыпу быў арганізаваны і праведзены ў кастрычніку 1986 года ў клубе „Рыўера" — таксама ў Варшаве. Як, бадай, ужо ўсім вядома, папярэдні агляд быў з нашага боку няўдачай, нат правалам, а ўжо напэўна дысгармоніяй паміж рэальнымі магчымасцямі і амбіцыямі. Але што ж, мерапрыемства адбылося, потым часта ў нашым асяроддзі ішла сарамлівая дыскусія над прычынамі такой няўдачы, разглядалася спосабы, як на будучыню пазбегчы памылак і штоколечы канкрэтнае паказаць перад студэнцкай аўдыторыяй. Нат ставілася пытанне, ці ўвогуле варта прымаць удзел у такім мерапрыемстве нам, беларусам, і ці здолеем мы паказацца на нейкім мастацкім узроўні? Шмат хто быў супроць выступлення ў наступным годзе (гэта значыць у 87-ым) на такім аглядзе, каб не быць потым аб'ектам насмешак. Але ж не, рэальныя галасы былі закіданы іррацыянальнымі эмоцыямі, бескрылымі ганарлівасцю, быццам бы абавязкова павінны там паказацца, бо... так трэба і ўсё! А выканаўцы? Адказ: ой, знойдуцца... Потым ізноў аказваецца: якраз выканаўцаў, якіх потым не пасаромеліся б, няма. Быў яшчэ іншы варыянт. Менавіта, зрабіць агляд найперш у нашым асяроддзі і найлепшых аматараў, ужо пад вокам вопытнага інструктара, выставіць далей. Гэта было б нядрэнна і сур'ёзна. Але і гэты варыянт абмінулі. Зрабілі як хацелі, а хутчэй — як маглі. А змаглі няшмат. Эфект відавочны. Апошні агляд — гэта прыклад і доказ таго, як нельга арганізоўваць і праводзіць мерапрыемства. Доўга ніхто не ведаў, ці такі агляд будзе, а ўжо калі мае быць — ніхто не мог сказаць. Ну, і агляд. Загадзя, акрамя ўступных білетаў, бадай, нічога не было падрыхтавана. Не было ні належнага музычнага абсталявання, ні сур'ёзнага парадку імпрэзы. Па сутнасці галоўная частка, менавіта выступленні, былі нічога не вартыя. Літоўцы сёлета ўвогуле адсутнічалі. Асталіся мы і ўкраінцы, больш-менш у такіх самых прапорцыях як на сцэне, так і сярод публікі. Узровень агляду адлюстроўваў адносіны да яго не толькі арганізатараў, але і выступаючых. Дрэнна настроеная музычная апаратура дапоўніла гэту жаласную карціну. Выступаючыя паўтараліся, часта забывалі словы твораў, дый, так сказаць, спявалі абы-што і абы-як. Здарылася і так, што ўкраінцы свае дасягненні прэзентавалі папольску, а нашыя ў сваю чаргу па-руску папулярызавалі беларускую культуру. Так што перш-наперш кідалася ў вочы ігнарацыя і абыякавасць. Ну што ж, на канец выпадае неяк аптымістычна закончыць гэткія разважанні: „не бывае так дрэнна, каб яшчэ горш не магло быць". А як будзе — час і падзеі пакажуць.

**Прысутны**

## НЯМА БУДУЧЫНІ БЕЗ ГІСТОРЫІ

Чалавек прыходзіць на гэты свет і адыходзіць. Такія законы прыроды. Аднак тое, што зроблена ім за сваё жыццё, часта застаецца ў супольнай памяці яго пакалення. Калі чалавек адыграў нейкую важную ролю ў грамадскім жыцці, у культуры, у палітыцы, дык памяць пра такога чалавека не прападае разам з яго смерцю. Такую памяць культурны чалавек будзе шанаваць і захоўваць, і дзякуючы гэтаму ўтвараецца традыцыя, без якой не можа быць ні грамадства, ні нацыі.

Цывілізаванае грамадства імкнецца выявіць і захаваць памяць пра як мага большую колькасць такіх людзей. Чым больш іх, тым большая гістарычная спадчына, а значыць: тым болей развіты народ, які, калі нават і малы па сваёй колькасці, аказваецца вялікім у дынамізме і магутным у гаспадарчай і культурнай патэнцыі (напрыклад, шведаў менш за беларусаў, але значэнне Швецыі агульнавядомае).

Неразлучным атрыбутам усякай нацыянальнай культуры трэба лічыць і міфы. Пра іх ролю ў развіцці культуры не даводзіцца шмат гаварыць, даволі тут прыкладаў з антычнасці, якую прынамсі прыблізна вывучаюць ужо ў пачатковых школах. Міф узнікае на базе нейкага канкрэтнага, але істотнага здарэння і мае сувязь з асобамі, якія ўплывалі на яго. І вось дзякуючы такім міфам нараджаецца пачуццё нацыянальнай гордасці, што на першы погляд можа здацца парадоксам.

Бадай няма такога паляка, які б не ведаў аб тым, што кароль Баляслаў Хробры, заваяваўшы Кіеў, пашчарбіў свой меч аб мур варотаў сталіцы Русі. І хоць вучоныя даказваюць, што гэта хутчэй за ўсё пазнейшая выдумка патрыётаў польскай дзяржаўнасці, ані трохі не бянтэжыць палякаў і з універсітэцкімі дыпломамі. Іншы папулярны сярод насельніцтва Польшчы міф звязаны з асобаю Юзафа Пілсудскага, без якога нібы не адрадзілася б Другая Рэчпаспалітая... Праўда цалкам не тая: не будзь у Расіі бальшавіцкай рэвалюцыі, не быць і незалежнай Польшчы! Гэтаму не пярэчыць аніхто з эрудытаў, нават каталіцкай арыентацыі. Сам Пілсудскі пасля пісаў, што перамога белых генералаў была б раўназначнай са знішчэннем польскіх намаганняў, каб адрадзіцца. Белагвардзейцы, прайграўшы і ўцёкшы ў эміграцыю, доўга клялі пана маршалка, помач арміі якога напэўна завяла б іх у маскоўскі крэмль. Абзывалі яго ў сваіх брашурах пахавальнікам выратавання Расіі, вядома, не дадаючы, што выратаваная белая Расія не выпусціла б Варшавы са сваіх кіпцюроў.

У нас, у беларусаў, усё мусіць быць, не як у людзей. Крый Божа такога, які возьмецца капаць у даўняй гісторыі нашага народа! Вышукваць слаўных нашых рыцараў, князёў, народных герояў і ганарыцца імі як спадчынай. Яго з месца назавуць нацыяналістам. Нічога, што гэта смешнае, ідыятычнае — называць патрыятызм нацыяналізмам, але такому „нацыяналісту" хутка абрыдне быць сынам роднага люду, бо яго проста зацкуюць свае. „Бі свой свайго, каб чужы і духу нашага баяўся!" — кажа народны жарт, не надта разумны. Гэта наша нацыянальная трагедыя, што ў нас няма ведаў пра наша слаўтае мінулае. А яно ж было! Толькі мы як бы самі сабе забараняем ведаць пра яго, самі сябе пхаем у рабскую залежнасць ад чужой культуры і легендаў. Бо, хто ж гэта з нас мае, хоць прыблізнае, уяўленне пра Полацкую Зямлю як пачатак беларускай дзяржаўнасці, пра князя Рагнеду, пра князя Ізяслава, пра дынастыю Брачыславічаў, не кажучы ўжо пра пачуццё гонару за іх, бо калі мае быць гонар, дык трэба ж ведаць, дзеля чаго ён?! Дзе ў нас перадаюць гэтую традыцыю маладым, у якой школе, у якім доме культуры, ці ў якой сям'і? Я і сам не вельмі адчуваю ўсю паўнату духоўнай сваёй лучнасці з беларускім мінулым, хоць з мяне і выпускнік беларускага

(Працяг на стар. 6)



## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

*Царква ў Пухлах. Малюнак Ул. Петрука.*

## НАША ПОШТА

Наш чытач **Генрык Мацуткевіч з Вроцлава** піша, што нарадзіўся на Віленшчыне. У ваколіцах Меднік і Шумска прайшло яго дзяцінства. У сям'і размаўлялі па-беларуску. У гадах 1939-1941 вучыўся ў беларускай гімназіі ў Вільні.

„Зараз цікавіць мяне, — піша ён. — мова майго дзяцінства. На гэтай мове размаўляю (з цяжкасцю) са сваякамі і знаёмымі, што жывуць у Вільні, на Літве і ў Беларусі, калі прыязджаю на бацькаўшчыну. Хачу даведацца, ці ёсць беларуска-польскія, беларуска-рускія або руска-беларускія слоўнікі і дзе іх можна купіць?“

**Ад рэдакцыі:** У апошнія гады былі выдадзены „Podręczny słownik polsko-białoruski“ (Warszawa, 1962) і „Русско-белорусский словарь в двух томах“ (Минск, 1982). На жаль, купіць іх у кнігарнях немагчыма. Адзіны ратунак у чытачах „Нівы“. Калі хто мае непатрэбныя спомненыя або іншыя слоўнікі, просім даслаць па адрасу: Henryk Macutkiewicz, ul. Sarbinowska 3 m. 12, 54-317 Wrocław. **(л)**




### ПЕЧАНІНА ПА-СЯЛЯНСКУ

На 600 г мяса трэба ўзяць 6-8 бульбін, 1 моркву, 1,5 сталовай лыжкі мукі, 1 сэлер, 2 цыбуліны, паўшклянкі смятаны, лаўровы лісток, перац, соль.

Памыць мяса, парэзаць на кавалкі па 30-40 г, лёгка збіць, пасыпаць соллю і перцам. Паніраваць мяса ў муцэ і смажыць. Падсмажанае мяса пералажыць у плоскую каструльку, далажыць нарэзаную бульбу, цыбулю і моркву. Усё заліць вадой або мясным адварам так, каб толькі пакрывала прадукты, і тушыць на малым агні. На 5-10 мінут перад канцом гатавання дадаць смятану, сэлер, лаўровы лісток і соль па смаку.

### СЭРЦА З ГАРОДНІНАЙ

На 400-500 г сэрца трэба ўзяць 50-60 г тлушчу, паўшклянкі смятаны, 1-1,5 лыжкі мукі, 2 буракі, 1-2 кіслыя агуркі, 2 морквіны, прыправы, соль. Сэрца ачысціць, памыць, парэзаць на невялікія кавалкі, паніраваць іх у муцэ і смажыць. Падсмажаныя кавалкі сэрца пералажыць у каструльку, дадаць кавалкі кіслых агуркоў, буракоў, морквы, прыправы і крыху булёну. Усё тушыць на невялікім агні. На 5-10 мінут перад канцом гатавання дадаць смятану і пасаліць па смаку.

### ХАТНЯЯ ПТУШКА ПЕЧАНАЯ

На 1 хатнюю птушку (курыцу, качку ці гуску) вагай 1,5 кг трэба ўзяць 200 г саланіны, паўшклянкі (на гуску — больш) грэцкай крупы або панцаку, 2-3 цыбуліны, соль.

Гуску, качку, або курыцу выпатрашыць, асмаліць над агнём і памыць. Тады абрэзаць шыю, ножкі і крыльцы і нацерці соллю зверху і ў сярэдзіне. Падпражыць крупу, падсмажыць асобна цыбулю і нарэзаную саланіну. Усё гэта разам перамяшаць і такім фаршам напоўніць птушку. Зашыць яе, палажыць на бляшку жыватом дагары і ўставіць у духоўку. Птушку паліваць час ад часу тлушчам.

Гатовую страву парэзаць на часткі, выняўшы перад гэтым ніткі.

Птушку можна таксама фаршыраваць свежымі яблыкамі. Тады трэба яблыкі парэзаць на чвэрткі і выразаць з іх насенне. Можна таксама абабраць яблыкі, а некаторыя гаспадыні дадаюць да яблыкаў крыху цукру.

**Гаспадыня**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, мы пакахалі адно другое на ўсё жыццё. Валік — мяне, а я — яго. Не маглі аднаго дня пражыць, будучы паасобку. Хадзілі, узяўшыся за рукі, а людзі нам зайздросцілі. Так мінула два гады да таго часу, пакуль мы не пажаніліся. Нарадзіліся ў нас дзве цудоўныя дачушкі. Мы абое былі вельмі шчаслівыя, але... пакуль жылі ў маіх бацькоў. Мае бацькі — гэта вельмі спагадлівыя людзі. Яны нават слухаць не хацелі пра тое, што возьмуць ад нас нейкі грош. Кармілі нас і дзяцей, быццам бы яны былі не іхнімі ўнукамі, а дзецьмі. Было так добра, што мой муж, нават калі мы ўжо атрымалі кватэру і стаяла яна паўгода гатовенькая і адчыканеная, не хацеў перабірацца да сябе. Бадай, не было так кепска...

Але ўсё радыкальна змянілася, калі мы перайшлі ў сваю хату і трапілі пад уплыў цешчы, свякрухі маёй, якая жыла ў адным блоку з намі. Ніколі раней не прыйшло мне ў галаву, што з такога вялікага кахання да Валіка можа ў мяне нарадзіцца нейкая нянавісць не толькі да яго, але і да ўсёй сям'і. Свякруха мая ўвесь час хоча даказаць, што гэта яна мае асноўны ўплыў на свайго сына, а я — гэта толькі (патрэбны, а мо непатрэбны?) дадатак да яго. Дадатак, які нарадзіў дзяцей, які для таго, каб іх выхаваць, кінуў працу, які штодзень робіць пакупкі, варыць абед, корміць, мые, даглядае дзяцей і... раскідае налева і направа грошы, якія цяжка зарабіў яе сын. Пры кожнай магчымай нагодзе яна стараецца ўпайваць свайму сыну гэты яе погляд на жыццё і нявестку. А нагод у апошні час назбіралася аж занадта многа. Калі нявестка купіла новы свіцер, дык трэба ж на злосць ёй запрасіць сына на вячэру. Сын часамі „вячэрае“ там да раніцы. Прыйшоўшы дахаты, можа буяніць, можа нагаварыць жонцы розных імпертынэнцый тыпу таго, як то ёй лёгка жыць „не працуючы“ і якой лёгкай рукой яна выдае яго цяжка запрацаваныя грошы. Такія сцэны канчаюцца страхам дачушак, а мае бацькі баяцца зайсці ў наш дом. А ў апошні час здараецца і так, што я з дзецьмі еду начаваць да сваіх бацькоў, баючыся чарговага скандалу.

І я пасля ўсяго гэтага страціла сэрца да сваёй свякрухі. Мне здаецца, што калі яна — чалавек спагадлівы, як кажа сама, дык павінна зразумець, што шчасце яе сына залежыць і ад мяне і ад нашых дачок. З намі ж яму трэба жыць, а не з мамай усё ж. І часамі ходзяць мне па галаве думкі, што, можа, варта звольніць яго ад гэтага непрыемнага абавязку — быць мужам і бацькам, мо няхай лепш жыве са сваёй мамай, такой разумнай і сардэчнай у адносінах да яго... А што ты параіш, Сэрцайка?

**Ніна**

Ніна! Пакуль сітуацыя не стала безнадзейная, з разводам не спяшайся. На гэта ты час яшчэ будзеш мець, а бацьку ж дзецям другога не знойдзеш. Твая сітуацыя наогул даволі тыповая. Свякрусе цяжка пагадзіцца з тым, што ў сэрцы яе сына нехта заняў тое месца, якое калісь належалася ёй. І адсюль усе яе калючыя ўвагі ў твой адрас, бо так напраўду, то ж яна сама жанчына і ніхто лепш за яе не ведае, якая „лёгкая“ жаночая праца ў хаце. Пакуль што магу табе параіць адно. Памяняй блок, а яшчэ лепш — квартал горада. Гэта будзе на карысць усім вам і можа ўнесці спакой у ваша жыццё.

**Сэрцайка**

## СОННІК

116

**Укладваць** што-небудзь — любіш парадак.

**Украсці** — непрыемныя справы.

**Укус** сабакі — шкода, страта; змяі — цябе акружаюць зайздроснікі.

**Улада** — благая кампанія.

**Улан** — даб'ешся свайго.

**Уласнасці** пазбаўленне — страта маёмасці.

**Уміраць** — многа пустых абяцанняў; бачыць уміраючых — радасць; уваскрэснуць — неўпарадкаванае жыццё; хацець памерці — здароўе.

**Універсітэт** — барані тое, што лічыш правільным.

**Уніформа** — фанабэрыстасць.

**Унук** — неспадзяваная радасць; размаўляючы — сваім розумам пераўзыдзеш іншых.

**Упартасць** у дзіцяці бачыць — смутак; у дарослых — моцнай воляй даб'ешся свайго.

**Упірацца** пры чым-небудзь — з-за тваіх брыдкіх паводзін няўзлюбяць цябе.

**Упраўляць** — страты.

**Урачыстасць** — вясёлы настрой і задавальненне.

**Урна** — небяспека; акружаная кветкамі — спадчына.

**Урон** камусьці ўчыніць — крыўда.

**Успамагаць** — шчасце, пашана.

**Утапіцца** — цябе абміне вялікае шчасце; благая жаніцьба або замужжа.

**Уцёкі** — пазбяжыш небяспекі.

**Уцякач** — ліст.

**Уцячы** ад небяспекі — шчасце.

**Учынак** (схапіць кагосьці) — неўзабаве цябе чакае вялікая спакуса.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# РАЁННЫ АГЛЯД У БЕЛАСТОКУ

27 лютага ў Беластоку адбыўся раённы агляд школьнага дэкламатарскага конкурсу, прысвечанага творчасці членаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа“, якому ў гэтым годзе спаўняецца трыццаць год ад заснавання.

У раённым аглядзе ўдзельнічала дваццаць дзяцей з розных школ ваколіц Беластока. Найбольш масава прыехалі вучні з Нараўскай гміны, бо з усіх школ — з Трасцянкі, Нарвы, Ласінкі, Крыўца і Гародчыны. Поўнач раёна Беласточчыны прадстаўлялі дзеці са школ у Шудзялаве і Ляшуках. Не даехалі (відаць, не выйшла з даездам) дзеці з Нараўкі.

Усе дзеці былі вельмі старанна падрыхтаваны. Нямала папрацавалі і самі, і іх настаўнікі над падборам адпаведнага рэпертуару, над вымаўленнем, над адпаведнай інтанацыяй. Кожны з дэкламатараў падрыхтаваў адрывак прозы і верш. Самыя малодшыя дзеці выступілі толькі з вершамі, бо на іх узрост (а былі сярод іх і другакласнікі) сур'ёзная проза была ячшэ не пад сілу. На гэтым раённым аглядзе дзеці чыталі пераважна прозу Сакрата Яновіча, Юркі Геніуша, Васіля Петручука, М. Гайдука і В. Рудчыка. З паэзіі — творы В. Шведа, А. Барскага, Л. Танкевіча, З. Стаськевіч, Я. Чыквіна, М. Шаховіча і іншых.



*Удзельніцы раённага дэкламатарскага конкурсу са школы ў Нарве Ася Кур'яновіч і Марта Врацэнская. Рыхтавала іх на конкурс настаўніца Ала Якубоўская. У іх выкананні журы праслухала вершы В. Шведа „Беласточчына“ і „Родная мова“, а таксама ўрыўкі прозы С. Яновіча і М. Гайдука.*



*Удзельнікі дэкламатарскага конкурсу з Трасцянкі: Юліта Баршчэўская, Эля Раеўская, Гражына Трафімюк і Тадзік Раманюк са сваёй настаўніцай Гэленай Тапалянскай.*

Сярод малодшых дзяцей (II — V класы) першае месца заваявала маленькая другакласніца з Трасцянкі Юліта Баршчэўская, — другое — пяцікласніца Ася Астапчук з Ласінкі, трэцяе — пяцікласніцы Аня Засім з Ляшукоў і Ася Філіповіч з Ласінкі. Яны і паедуць на цэнтральны дэкламатарскі конкурс.

Са старэйшых вучняў найлепш выступілі Гражына Трафімюк з Трасцянкі, Міраслаў Паўлючук з Гародчыны (два першыя месцы), Крыся Садоўская з Ласінкі (другое месца), Дарота Саўко з Ляшукоў і Эля Раеўская з Трасцянкі (два трэція месцы). І з імі мы яшчэ сустрэнемся на цэнтральным аглядзе.

Тэкст і фота
Я. Чэрнякевіч

Васіль Зуёнак

## ХАТУ БУДЗЕ ВОЎК СТАЎЛЯЦЬ...

Сем гадоў,
А можа й дзесяць —
Пра адно гамонка ў лесе:
Птушка — птушцы,
А звер — зверу:
— Точыць, ладзіць
воўк сякеру...
— А навошта?..
Як не знаць!
Хату будзе
Воўк стаўляць.
Сцены новыя
Сасновыя,



*Ілюстрацыя паводле кніжкі „Хата поўная гасцей“.*

Аканіцы выразаныя —
У настой кары альховай
Фарбаваныя,
А ў святліцы —
Бліскучыя масніцы,
Столь — прапахлая
Смалою-жывіцай,
Будзе ўзімку
На чарэні,
На ляжанцы,
Як улетку
На сонечнай палянцы:
І спякотна,
І шчыкотна,
І ціхутка,
І дрымотна, —
Грэй сабе бакі старыя...

...А пакуль што —
Вецер вые,
Вецер плача,
вецер тужыць,
Вецер носіць золь ды сцюжу.
Сціхла,
Знікла ўсё жывое:
Хто ў дупле,
Хто пад зямлёю...
Ну а воўк?
А воўк — без хаты,
Сеў пад ёлкаю кашлатай,
Точыць, ладзіць воўк сякеру,
На язык лязо спрабуе
І клянецца цесля шэры:
— Летам —
Хату пабудую!
Дні за днямі прамінулі...
У лесе булі, ў лесе гулі:
Лета ў саменькім разгары.
Сонца смажыць,
Сонца жарыць,
Па дзялянках воўк сігае,
Дрэвы шэры выбірае:
Абухом па ліпе —

(Працяг на стар. 10)

# НІЎКА




## З суседскага агародчыка
### БРАЖНІК

У адным калгасе жонка з мужам цялят даглядалі. Яна, нічога, працавітай была, а ён — так і мікіціў, як той бык Хведзька, каб у якую шкоду ўбіцца...

За такі характар аднойчы ледзь не паплаціўся. Развесці бражку развёў, а выстаяцца ёй не даў, набамбоціўся, калі тая яшчэ не адхадзіла. І збабэнчыла яго — не давядзі як.

„Парвецца!“ — спалохаўся чалавек, абкруціўся некалькі разоў лейцамі, улёгся на лаве і толькі стогне.

Вяртаецца жонка з фермы, бачыць: ляжыць на покуці яе Іван і не варушыцца.

— Ты чаго прытаіўся? — пытаецца.

— І лейцамі яшчэ...

А ён:

— Маруська, давай прашчацца будзем, а то, адчуваю, парвецца...

Тут жонка здагадалася, што да чаго. Кінулася рады якой даць, а не можа. Ды раптам успомніла: калі бык Хведзька чаго абжарэцца, то заатэхнік прымушае яго бегаць вакол кароўніка, не дае і на хвіліну супыніцца. І ўратоўвае Хведзьку... Успомніла Маруся гэты спосаб і рашуча скамандавала:

— А ну, уставай з лавы і марш на двор!

На двары пачала вадзіць мужа вакол хлеўчыка. Спачатку моўчкі вадзіла. А калі Івану трошкі адлягло, стала падганяць:

— А цяпер подбегам, подбегам!

Калі яму яшчэ адлягло, узялася нават пакрыкваць:

— Я табе папрашчаюся, бражнік нягчасны! Я табе пакажу, як бурболіць усялякую халеру! Дай толькі ў хату загнаць...

Івана ў той дзень не парвала...

**Яраслаў Пархута**



— Не ўстану, пакуль ён не папросіць прабачэння.

### ДОБРЫ САБАКА

— У мяне быў такі сабака, што чэснага чалавека ніколі не чапаў, а вось на злодзея адразу кідаўся.

— Добры сабака!

— Але я яго прадаў.

— Чаму?

— Бо ўжо пачаў і на мяне кідацца.

### ТУПЫ НОЖ

Дачка прыехала да бацькоў на свята. У мястэчку яна навучылася некаторым культурным манерам, любіла звяртаць увагу сваіх бацькоў, што культурна, а што некультурна.

— Татачка! Гэта ж страх — няможна есці нажом!..

— Не бойся, дачушка, ён тупы...

Капаў яму іншым, апраўдваючыся тым, што хоча дакапацца да ісціны.

### НІЧОГА НЕ РАЗУМЕЮ

Ад'язджаючы ў камандзіроўку, ён сказаў жонцы: „Ты без мяне тут не сумуй!“ Вярнуўся і адразу развёўся. А чаму? Сам жа сказаў: „Не сумуй!“ І суседзі пацвердзілі: „Яна не сумавала!“

### КАСТУСЬ ДУМАЕ

— Кастусь, пра што ты так напружана думаеш? — пытае сябар.

— Прыкідваю, чым я больш парадую жонку: калі падарую ёй на імяніны ровар ці паабяцаю аўтамабіль.

### ІМЁНЫ БАЦЬКОЎ

Настаўнік:

— Васілёк, як завуць тваіх бацькоў?

Першакласнік Васілёк:

— Мама і тата.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Прадпрыемца робіць абход цэха. Пад надпісам „Не курыць“ ён выяўляе недакураную цыгарэту.

— Эй, хлопец! — звяртаецца ён да рабочага, што стаіць непадалёку. — Твой акурак?

— Ды не, дружа, бяры, калі знайшоў.

*

На святочным вечары гаспадыня прадстаўляе гасцям:

— А гэта вядомы ігрок у рэгбі Чарлі Худруф.

— О, як міла! — заўважае адна з запрошаных дам. — Ён нам нешта зайграе?

*

— Ну як, Пятро, у вас справы з перабудовай?

— Задавальняюча: я ўжо пад уласным дахам жыву, а вось кум Піліп яшчэ не — яму на два гады больш далі. За перабудову дачы з дзяржаўных матэрыялаў.

## З „Весніка Задрыпоніі“
### ПА ЎМОВАХ КАНТРАКТА

Вядомы ў гор. Ачуцінава марафонец Раман Паўзун выйшаў на чарговы старт у майцы з надпісам „Іраіда Паўзун — руплівая гаспадыня, любячая маці, верная сяброўка“. На пытанні карэспандэнта бягун адказаў, што Іраіда Паўзун з'яўляецца яго спонсарам і па ўмовах кантракта кожны дзень выдае яму сто злотых на абед і кішэнныя выдаткі.



## З народнага
### У ДОКТАРА

— Памажыце, доктар; нешта<br>
З мужам сталася маім.<br>
Захварэў, відаць, надобра...<br>
— Ну, а што ж такое з ім?

— Дык, бывае, тры гадзіны<br>
Языком я малачу,<br>
А пасля — гляджу і бачу:<br>
Ён ні слова не пачуў!

— І ўсяго? Тады не страшна.<br>
Не памрэ ваш гаспадар.<br>
Гэта цётка, не хвароба!<br>
Гэта, цётка, божы дар!

**Ніл Гілевіч**

## Курёзы
### ВЫНАХОДСТВА

Адна поўная хатняя гаспадыня з ФРГ праславілася на ўсю сваю краіну вынаходствам зусім прасценькім. Яна павесіла на халадзільнік замок, аддала ключ мужу і загадала не выдаваць ёй яго вечарам ні ў якім выпадку. І... стала стройнай, пахудзела кілаграмаў на сорак.

### „ЖУЧКІ“

Французская тэлесетка „Антэн-2“ паказала нядаўна сюжэт, прысвечаны шырокаму распаўсюджанню прылад для падслухвання. Нягледзячы на фармальную забарону, іх прадаюць у Парыжы мінімум у 20 спецыялізаваных магазінах за вельмі даступную цану. З дапамогай найпрацейшых „жучкоў“ можна падслухаць любую тэлефонную размову або прыватную гутарку...




Дурань смяецца з разумнага, разумны — з дурня, і толькі мудрэц — сам з сябе.




Сілуэты канькабежцаў, здавалася б такія самыя, розняцца дробнымі дэталямі. Спалучыце цені з адпаведнымі сулуэтамі і пакажыце, у якога з канькабежцаў няма свайго ценю і які з ценяў не падыходзіць да ніякага канькабежца.

Разгадка: 1-6, 3-8, 5-12, 7-10, 11-14, 13-2, 15-18 і 17-6. У канькабежца № 9 няма свайго ценю, а цень № 4 не падыходзіць да ніякага канькабежца.